# СВАБОДА

№7-8 верасень 1992

Кошт 1 рубель








ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**
Выдавец **Павал ЖУК**



АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ:
**220029, Менск,**
вул.М.Багдановіча, 7а


**Факт ёсьць факт**

**УСЯНОЧНАЯ** 5 верасьня на Краплівінскім полі паблізу Воршы моладзь наладзіла фэст беларускай бардаўскай песьні ў гонар 478-й гадавіны Аршанскай бітвы. Сьвята працягвалася амаль усю ноч.

**ДРУК** У Вільні распачатае выданьне новага беларускага тыднёвіка «Вільня і край», які будзе асьвятляць жыцьцё тутэйшае беларускае супольнасьці.

**ГЕНАФОНД** Магілёўскі абласны мэдыка-генэтычны цэнтр за першую палову 1992 г. запрапанаваў 34 жанчынам спыніць цяжарнасьць, каб пазьбегнуць нараджэньня дзіцяці з паталягічнымі адхіленьнямі. За ўвесь мінулы год такіх рэкамэндацыяў было выдадзена 48.

**ДЫСЫДЭНТЫ** Па зьвестках Дзяржкампрацы Беларусі, 576 з 626 віетнамцаў, звольненых з працы за розныя парушэньні, ухіляюцца ад выезду на радзіму.

**РАСПРОДАЖ** У Докшыцкім раёне зьліквідаваны 5 вясковых бібліятэк — «з-за адсутнасьці сродкаў на ўтрыманьне». Кніжны фонд распрадаецца па «свабодных цэнах».

**МУЗЭІ** 12 верасьня ў Навагрудку адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё рэканструяванага Дома-музэя Адама Міцкевіча. Чакаецца прыезд высокіх гасьцей зь Менску і Варшавы.

**СЬПЁКА** Сёлетняя гарачыня гэтак высушыла Нёман, што спынілася праца ў Гарадзенскім рачным порце, людзей распусьцілі ў вадпачынак. Штодня ўзровень вады падаў на 3 см і рака зрабілася несудаходнай. Падобнае здаралася ажно ў 1881 годзе.

**СУСЕДЗІ** Летува набыла ў Расеі 10 тысяч аўтаматаў АК-74, заплаціўшы за кожны па 225 даляраў. Міністр абароны Летувы А.Буткявічус заявіў у інтэрвію віленскай "Рэспубліцы", што рэгулярная летувіская армія ў пэрспэктыве будзе налічваць 20 тысяч чалавек.

**АНАЛІЗ НАВІНАЎ**

# А што на чыкінскіх палетках?

На палітычным календары канец чарговага сэзону. Руплівы гаспадар — з тых, хто спадзяецца ўраджаю, — скончыў падрыхтоўчыя працы і маецца распачаць сяўбу...

Нагадаў пра сваё існаваньне Усебеларускі Славянскі Сабор, абвясьціўшы ідэю «Камітэта па абароне стабільнасьці ў Рэспубліцы Беларусь». Узяўся за «забясьпячэньне выхаду з крызысу без сацыяльнай і нацыянальнай канфрантацыі» Каардынацыйны камітэт грамадзкіх арганізацыяў і палітычных аб'яднаньняў, злучаных славянска-камуністычнай ідэяй пад крылом Савета Міністраў. ПКБ і «Движение за социальный прогресс и справедливость» (ДСПС) не складаючы рук ураблялі свае безнадзейна пескаватыя дзялянкі. Раўніва сочачы за дзейнасьцю БНФ і дэмакратычных партыяў, камуністыя мэтадычна ладзілі альтэрнатыўныя акцыі.

Пачуцьцё пратэсту супраць сьвяточнага настрою дэмакратаў 25 жніўня (Дзень наданьня канстытуцыйнага статусу Дэклярацыі аб сувэрэнітэце) — лягічнае для камуністых; таму контрмітынг быў нібыта і дарэчы. Але заяўка ДСПС на акцыю 8 верасьня — чыстая непасрэднасьць, вартая замілаваньня. Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў і дэмакраты зьбіраюцца сьвяткаваць перамогу беларускай зброі над расейскай? Маюцца абвясьціць дзень Аршанскай бітвы 1514 г. — Днём беларускай вайсковай славы? Ну, дык на кожнае нацыяналістычнае сьвята знойдзецца роўнае яму інтэрнацыянальнае! І ДСПС на поўным сур'ёзе зьбіраецца сьвяткаваць 8 верасьня... Кулікоўскую бітву як сымболь супольнага пошуку «к шчасьцю дарог».


*(Працяг на стар.2)*


## ХХ-ая Сустрэча беларусаў

**5—7 верасьня ў невялікім амэрыканскім горадзе Нью-Брансўік (недалёка ад Нью-Ёрка) прайшла ХХ-ая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне беларусаў Канады ладзяць такія сустрэчы што два гады. Першая адбылася ў 1952 г. на Ніагары.**

# Людзі цікавяцца: ці заплаціла СВАБОДА 100.000 руб.?

**Мінула ўжо акурат тры месяцы пасьля таго, як старшыня народнага суда Цэнтральнага раёну г.Менска Уладзімер Турко абараніў «гонар і годнасьць» высокапастаўленага саўмінаўскага чыноўніка сп.Г.Данілава і абавязаў СВАБОДУ выплаціць яму 100 тысяч рублёў кампэнсацыі «за маральныя страты», нанесеныя публікацыяй артыкула Аляксандра Старыкевіча «Правая рука Кебіча» (СВАБОДА, №2 за 1992 г.).**

Сп.Данілаў, натуральна, вельмі ўзрадаваўся такому рашэньню: расчулена дзякаваў судзьдзю, цісну ў руку пракурору — малайцы, добра працуеце!

У нас жа судовае рашэньне выклікала вялікае зьдзіўленьне, найперш — сваёю тэндэнцыйнасьцю. Судзя Турко, імкнуючыся, відаць, максымальна задаволіць пажаданьні Данілава, гэтак захапіўся, што нават прысудзіў рэдакцыі абвергнуць апублікаваныя ў нашым артыкуле афіцыйныя зьвесткі камісіі Вярхоўнага Савету па ГКЧП.

Натуральна, мы не маглі пагадзіцца з гэтым ды іншымі пунктамі судовага рашэньня, і ў вадпаведнасьці з законам пачалі дамагацца перагляду справы ў наступнай інстанцыі — Менскім гарадзкім судзе. Аднак судзя Турко, разумеючы, відаць, што выявіцца ягоная тэндэнцыйнасьць, імкнецца не дапусьціць разбору ў гарадзкім судзе.

Перагляд справы, зразумела, не ўваходзіць і ў пляны начальніка саўмінаўскага ўпраўленьня па пытаньнях грамадзкай бясьпекі і абароны сп.Данілава і ягоных сяброў-урадоўцаў. Яны, пэўна, ужо дасканала разьлічылі: калі ў СВАБОДЫ ня знойдзецца, чым плаціць штраф, — прыкрыць газэту. Наіўныя людзі.

Зразумела, плаціць 100 тысяч Данілаву — гэтае ў нашыя пляны не ўваходзіць. Мы будзем дамагацца аб'ектыўнага судовага разбору, нягледзячы на тое, што судовыя выдаткі і паслугі адваката могуць абысьціся нам прыкладна ў такую ж суму.

# А што на чыкінскіх палетках?

(Пачатак на стар.1)

Зрэшты, плянамерныя дэманстрацыйныя памкненьні камуністых выступаць у кантрарнай пары з БНФ сьведчаць прададно: яны маюць прэтэнзію на ролю ідэалягічных апанэнтаў Фронту, а, значыць, палітычнай альтэрнатывы на выбарах. Але тыя, хто сапраўды выступіць альтэрнатыўнай сілай на выбарах, не перашкаджаюць пакуль Чыкіну і К° гуляцца ў значнасьць.

8 верасьня стане яшчэ й своеасаблівым прамежкавым вынікам у супрацьстаяньні Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў кіраўніцтву Міністэрства абароны Беларусі.

Парадаксальная сытуацыя: падчас стварэньня нацыянальнага войска Міністэрства абароны мэтадычна пазбаўляецца ад патрыятычнага афіцэрства. Гэтая неабвешчаная вайна ідзе зь пераменным посьпехам. Каб нэўтралізаваць чыннасьць БЗВ, Мінабароны выдае славуты Загад №8, які забараняе вайскоўцам палітычную дзейнасьць у службовы час. Лідар БЗВ Мікалай Статкевіч на прэс-канфэрэнцыі заяўляе: «Пэўным колам посткамуністычнай намэнклятуры... патрэбна паслухмянае войска, якое можна будзе выкарыстаць для антыканстытуцыйных дзеяньняў».

А тут яшчэ публіка даведваецца пра факты карупцыі ў войску. Каб прыглушыць скандал, Мінабароны скідвае з ганка на дзіды частку пэрыфэрыйнага генэралітэту, падтрымліваючы ілюзію самаачышчэньня арміі. У сваю чаргу, БЗВ вырашае прынародна прыняць прысягу на вернасьць Рэспубліцы Беларусь. Кіраўніцтва Мінабароны на прэс-канфэрэнцыі абвяшчае, што ўдзельнікі акцыі, выкрытыя ў вернасьці, будуць неадкладна звольненыя ў запас. Тады ж, 8 верасьня, распачнецца запіс у рэзэрвы БЗВ. Патрыятычны рух, які сваёй статутнай задачай абвясьціў «абарону дэмакратыі і дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі», мае падставы не давяраць афіцыйным абаронцам гэтага сувэрэнітэту. І мае сумны досьвед мітусьлівага запісу ў нацыянальную гвардыю на плошчы Леніна ў жніўні мінулага году. Урокі гісторыі вучаць.

Пачатак восені стаў адметны таксама афармленьнем ультраправага крыла на палітычнай шкале Беларусі. Утварылася Радыкальнае Крыло Нацыянальна-Дэмакратычнай Партыі Беларусі — РК НДПБ. І цяпер БНФ, якога з правага боку ціснуць усё больш палітычных партыяў, аўтаматычна перасоўваецца са становішча правага цэнтру ва ўласна цэнтр. Палітычная ніша ультралевых пакуль застаецца вакантная.

Рупліўцам на палітычнай ніве — шчодрага восеньскага ўраджаю!

**Алена ІВАШКЕВІЧ**

# «НОВЫ ПАН» АТРЫМАЎ ГЭКТАР ЗЯМЛІ

**З калгаса «40 лет Октября» (в.Альшаны, Столінскі раён) пажадаў выйсьці намесьнік старшыні калгаса Аляксандар Патоцкі — пераможца ўсебеларускага конкурсу фэрмэраў.**

Сп.Патоцкі захацеў стварыць уласную фэрмэрскую гаспадарку, дзе, апрача іншага, плянаваў стажыраваць навучэнцаў Столінскае вучэльні, аб чым ужо была заключана дамоўленасьць зь яе дырэкцыяй. Аднак ажыцьцявіць задуманае аказалася ня так проста. Далёка ня ўсе «ўпаўнаважаныя члены калгаса», што былі на сходзе, пагаджаліся адпусьціць яго «на волю». Адныя заяўлялі, што «не дадуць разбураць калгас», другія крычэлі, што «новы пан нам не патрэбен», трэція раілі: «Бяры балота і ўрабляй, а ў калгасе лішняй зямлі няма»...

Намесьнік старшыні калгаса прасіў 50 га зямлі. Спачатку нібыта пагадзіліся аддаць ягоны калгасны пай — 6,9га. Пасьля ж «сходу ўпаўнаважаных» адпусьцілі з калгаса сп.Патоцкага й жонку з 1,3га зямлі...

**Ігар БАРАНОЎСКІ**
(WIS)

**P.S.** Столінскі райвыканкам «пашкадаваў» Патоцкага і нядаўна выдзеліў яму яшчэ 43.7 га. Хаця зямля ня дужа прыдатная для с/г выкарыстаньня ды яшчэ й знаходзіцца далёка ад гаспадаркі Патоцкага, ён і гэтаму быў рады. Аднак старшыня суседняга калгаса, ад якога адрэзалі гэтую зямлю, ігнаруе рашэньне райвыканкама і заяўляе, што Патоцкі не атрымае ў яго ні соткі. «Новы пан» піша скаргі і застаецца аптымістам.

**І.Б.**

# З камісарам — да новых перамог

Клецкая раённая газэта «Да новых перамог» нядаўна абвесьціла: «На Клеччыне пачынаецца работа па стварэньні арганізацыйных структураў партыі камуністаў Беларусі, якая аб'явіла сябе правапераемніцай колішняй кампартыі. З гэтай мэтай у Клецку ў памяшканьні райваенкамата працуе арганізацыйны камітэт новай партыі, які займаецца перарэгістрацыяй былых камуністаў, пытаньнямі прыёму ў ПКБ».

Пасьля таго, як клецкі дэпутат ВС ад Апазыцыі Лявон Дзейка зрабіў запыт міністру абароны, «дзейнасьць аргкамітэта ў памяшканьні райваенкамата спынена» — паведаміў у лісьце дэпутату вайсковы камісар Беларусі І.Літоўчанка. Прыхільніку ПКБ мясцоваму камісару В.Вінаградаву «забаронена выдзяленьне памяшканьняў райваенкамата для правядзеньня падобных мерапрыемстваў».

**П.П.**

# НА МАГІЛЕ ПРЭМ'ЕРА БНР

**2 жніўня ў вёсцы Парэчча Пінскага раёна быў асьвечаны крыж на магіле вядомага беларускага палітычнага дзеяча Рамана Скірмунта, дзе пахаваныя таксама ягоная сястра і яе муж.**

Раман Скірмунт быў закатаваны разам з мужам ягонай сястры ў канцы восені 1939г. мясцовымі актывістамі новых камуністычных уладаў. Перад сьмерцю былы прэм'ер урада Беларускай Народнай Рэспублікі сказаў: «Я нічога дрэннага людзям ніколі не рабіў».

Добрая памяць пра Скірмунтаў жыла сярод старых людзей Парэчча. Яны памяталі, як Раман Скірмунт дапамагаў бедным, ахвяраваў грошы пагарэльцам, даваў збожжа падчас неўраджаю, фінансаваў школы, а работнікі на ягоных фабрыках яшчэ пры ягоным бацьку бралі ўдзел у разьмеркаваньні прыбытку. Памяталі людзі і пра тое, як Раман Скірмунт выратаваў вёску ад спаленьня палякамі — ён узяў ікону і стаў на калені перад польскім афіцэрам...

Мінула б яшчэ трохі часу, памерлі б людзі, і мейсца пахаваньня Скірмунтаў магло згубіцца — старыя крыжы ўжо згнілі, а магілы зарасьлі. Дзякуй Богу, на Палесьсі людзі жывуць доўга і маюць добрую памяць. Яны й дапамагалі актывістам пінскай філіі «Мартыралёгу Беларусі» і Саюзу палякаў Беларусі адшукаць і ўпарадкаваць магілу. Да гэтай справы далучыўся таксама аддзел культуры Пінскага гарвыканкама.

**І. Б.**

# Пазьняку не сядзіцца ў Менску

**27 жніўня ў Горадні знаходзіўся лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк разам зь першым намесьнікам Юрыем Хадыкам і старшынёю Ініцыятыўнай групы па рэфэрэндуме Уладзімерам Анцулевічам.**

Яны правялі нараду з гарадзкой Радай БНФ, спаткаліся з працаўнікамі самага буйнога ў горадзе прадпрыемства—аб'яднаньня «Азот», а таксама з жыхарамі Горадні ў актавай залі філфака унівэрсітэта. У той жа дзень госьці наведалі гарадзенскую студыю тэлебачаньня, дзе зь імі была арганізавана «прамая лінія».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Памінальны мітынг у Зэльве

**У Зэльве адкрыты помнік на магіле вядомай беларускай паэткі Ларысы Геніюш і яе мужа Івана.**

На памінальным мітынгу, паведаміла гарадзенская «Пагоня», прысутнічала ўсяго каля 30 чалавек. Першым сказаў слова П.Рашэтнікаў з Баранавічаў, які ведаў Геніюшаў яшчэ з часоў іхняга знаходжаньня ў Чэхаславаччыне. Потым гаварылі паэты А.Вярцінскі і М.Лужанін.

Не абышлося, на жаль, без інцыдэнтаў. Кіраўнік аддзела культуры Зэльвенскага гарвыканкама павёў сябе непачціва, заявіўшы, што паэтцы ў Зэльве жылося выдатна, ніхто за ёю не сачыў і ня «стукаў» на яе ў КДБ... Гэтае выступленьне вельмі зьбянтэжыла прысутных. Давялося «ратаваць становішча» міністру замежных справаў П.Краўчанку, які папрасіў пакінуць у спакоі нябожчыкаў, нагадаўшы, што менавіта з гэтага пачалося адраджэньне моцнай сёньня Гішпаніі.

Паэтка Д.Бічэль-Загнетава нагадала, што на пахаваньні Ларысы Геніюш было шмат людзей, а чамусьці цяпер, на адкрыцьці помніка, апроч прыезджых з Горадні, Менску ды іншых гарадоў, не прыйшоў амаль ніхто зь мясцовых.

**М.Д.**

# Даходнае мейсца

**У Берасьці, на КПП «Варшаўскі мост» супрацоўнікі Міжрэгіянальнага аддзелу па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю знайшлі цэлы склад лекаў. Ён знаходзіўся ў «падсобцы» санітарна-карантыннага пункту, якім загадвае нехта Іван Душчак.**

Гаспадарлівы сп.Душчак, як паведамляе абласная газэта «Заря», назапасіў тут столькі лекаў, што іх хапіла б ледзь ці не на ўсе бальніцы Берасьцейшчыны. Сярод лекаў — выключна дэфіцытныя прэпараты кокарбаксілаза, цэрэбралізін ды іншыя — усяго 50 упаковак. Дарэчы, за адну такую ўпакоўку ў Польшчы можна набыць савецкую «Ладу».

Цікава, што ні ў якіх дакумэнтах лекі не зафіксаваны. Як, зрэшты, і ўсё астатняе: шкуркі (пясцовыя, мядзьведжыя, рысіныя, палярнага ваўка), мікрасхемы, электрарухавікі, электрапілы, фотатавары, гарэлка, шампанскае ды інш. Кажуць, што канцы ад сп.Душчака вядуць далёка наверх. Пабачым — наколькі ж далёка, калі ўвогуле пабачым.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**
(WIS)

# «Люди, будьте бдительны!»

**Самаробныя ўлёткі з такім заклікам былі расклееныя ў Берасьці напярэдадні сустрэчы 22 жніўня з дэпутатм ВС Зянонам Пазьняком.**

Гэтым разам лідара Народнага Фронту абвінавацілі ўсяго толькі ў «няведаньні беларускай мовы»: «Поздняк говорит: кілбаса, газэта, Амэрыка, а надо — каўбаса, газета, Америка». Таму — «Люди, будьте бдительны!»

**І.Б.**



**Шымон Пэрэс быў задаволены. Аховай таксама**

Міністра замежных справаў Ізраіля Шымона Пэрэса, які ў канцы жніўня прыехаў на Беларусь зь неафіцыйным візытам, ахоўвалі як нікога іншага: у дадатак да ягоных ды нашых людзей «у цывільным» былі прыстаўлены аўтаматчыкі са спэцпадразьдзяленьня. Гэтак ахоўвалі хіба што яшчэ прэзыдэнта Румыніі Ілiеску. Такія меры перасьцярогі былі прынятыя па просьбе службы бясьпекі Пэрэса. «Гэта ён нас так баіцца?» — пацікавілася цётка ў Вішневе, куды прыехаў Пэрэс, каб пабачыць мястэчка, дзе ён нарадзіўся. Цётцы растлумачылі, што ўся прычына ў палестынцах ды іншых «недружалюбных» да Ізраіля арабах, якія навучаюцца на Беларусі.

У Валожыне Шымон Пэрэс схадзіў на старыя габрэйскія могілкі (на здымку) пашукаць магілы сваіх сваякоў. Адну знайшоў.

*Здымак Яўгена КОКТЫША*

# Ніхто не забыты?

**Сьвятары праваслаўнай і каталіцкай канфэсіяў асьвяцілі ў Горадні помнік вайскоўцам, якія загінулі ў Афганістане. З тае вайны на Гарадзеншчыну не вярнуліся 72 маладыя хлопцы.**

На адкрыцьці помніка выступілі: міліцэйскі пісьменьнік генэрал Чаргінец, кіраўнік студыі «Ласковый май» Андрэй Разін, міністр абароны Беларусі генэрал Казлоўскі. На жаль, падчас урачыстасьці ніхто нават не ўзгадаў добрым словам яшчэ 460 ураджэнцаў Гарадзеншчыны, якія загінулі ў Савецкай Арміі ў «мірны пэрыяд» — 1946-1992 гг.

Напярэдадні адкрыцьця помніка міністр абароны правёў у Горадні агляд у першым мэханізаваным злучэньні Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь. Такім чынам адбылося стварэньне на базе танкавае дывізіі былой Беларускай вайсковай акругі першага злучэньня Беларускага войска. Хацелася б спадзявацца, што нейкім чынам будуць працягнуты традыцыі Першага беларускага стралецкага палка Беларускай Народнай Рэспублікі.

**М.С.**

# КЕБІЧА ЧЫТАЮЦЬ У КАНАДЗЕ. І ПАСЬМІХАЮЦЦА

Шаноўная рэдакцыя!

Гэтым летам я быў месяц у сваякоў на Бацькаўшчыне, чытаў вашыя афіцыйныя газэты і дзіву даваўся: няўжо беларускія людзі вераць таму глупству, той дэзінфармацыі, якой корміць іх цяперашні ўрад.

Адну прамову вашага прэм'ера Кебіча, якую надрукавалі газэты, я нават узяў з сабою, каб паказаць гэтае глупства знаёмым тут, у Канадзе. Пачытайце, што кажа Кебіч: «Мне во время моих зарубежных поездок многие видные политические деятели и бизнесмены часто высказывали обеспокоенность по поводу возможного у нас референдума, ставя при этом своё сотрудничество с нами в прямую зависимость от того, останутся ли в республике стабильная обстановка и то правительство, с которым они теперь имеют дело».

Сьмешна. Ніхто і нідзе ня робіць бізнэсовыя пляны з разьлікам на тое, што «останется правительство, с которым он теперь имеет дело». (Гэта Кебіч мог пачуць хіба што ад кубінскага дыктатара Кастра). Заходнім бізнэсмэнам патрэбны найперш заканадаўчыя гарантыі, а не абяцанкі ўрада. Тым больш ніхто ня будзе даваць гэтаму ўраду, які заходнія экспэрты лічаць пракамуністычным, недэмакратычным і ненадзейным рэжымам — пачытайце заходнюю прэсу.

Зрэшты, мне падалося, што людзі на Беларусі, хаця й ня бачаць заходняй прэсы, але сёе-тое разумеюць, і не такія яны неразумныя, якімі іх лічыць Кебіч.

**Пятро АРЭШКА**

Канада.

# Служым матухне-Расеі?

Я вельмі зьдзівіўся, калі пачуў, што кіраўніцтва Беларусі згадзілася трымаць на нашай тэрыторыі расейскія стратэгічныя вайсковыя базы яшчэ на працягу сямі гадоў. Значыцца, па-ранейшаму мы будзем заставацца ядзернай мішэньню?! І, як гэта стасуецца з нашым імкненьнем стаць нэўтральнай і бязьядзернай дзяржавай?

Акрамя таго, як высьветлілася, мы абавязаліся адпраўляць сваіх хлопцаў служыць на расейскіх базах. У такім выпадку няхай сп.Шушкевіч адкажа: як будзе вырашацца праблема грамадзянства гэтых людзей? Паглядзіце Закон аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь: «Артыкул 20. Грамадзянства Рэспублікі Беларусь страчваецца: ... з прычыны паступленьня асобы на ваенную службу, службу бясьпекі, у паліцыю, органы юстыцыі і іншыя органы дзяржаўнай улады і кіраваньня ў замежнай дзяржаве». Няўжо нашыя кіраўнікі падпісваюць пагадненьні, не зьвяртаючы ўвагі на ўласныя законы?!

**Мікалай ВАЛОДЗЬКА**

Віцебск

# Пра палякаў і палякаў

Прачытаў у №6 СВАБОДЫ допіс сп. Роўбы зь Берасьця, які піша пра амбіцыі некаторых прадстаўнікоў польскай меншасьці.

Сам я беларус, каталік. Жыву ў Лідзе і з «касьцельнымі палякамі» знаёмы асабіста. Нават у школе, дзе я вучыўся, іх была пераважная большасьць. Зразумела, што ў звычайным жыцьці гэта цалкам нармальныя людзі з усімі хібамі і вартасьцямі. Але калі справа тычыцца нацыянальнасьці... «Я — паляк», — з апломбам заяўляе любы зь іх, ня ўмеючы зьвязаць пару словаў на «роднай» мове. Усёй іх польскасьці хапае адно на тое, каб раўсьці на вясельлях: «Сто лят, сто лят!». Адкуль жа карані гэтай зьявы, што так глыбока сядзіць у сьвядомасьці людзей?

На маю думку, вось у чым рэч. Не сакрэт, зь якой павагай у «Краіне Саветаў» людзі ставіліся да замежнікаў. Я памятаю, як у нашай школе вучылася дзяўчына, у якой нехта з бацькоў паходзіў з Гішпаніі. У пашпарце яна запісалася гішпанкай. Якая вакол яе была аўра! Тое самае з нашымі «касьцельнымі» братамі. У камуністычныя часы яны, маючы сваякоў за мяжою, зь вялікімі цяжкасьцямі, але усё ж такі езьдзілі ў Польшчу. А там жылі заўсёды крыху лепш, дый свабоды было паболей. І вельмі хацелася хоць неяк далучыцца, крыху адасобіцца ад бальшавіцкага раю. Але трымалася гэта ўсё на мэркантыльнасьці: магчымасьці зарабляць грошы нейкім гандлем; бо гэта зараз практычна любы можа пераадолець заходнюю мяжу, а раней яны мелі тут відавочную перавагу. Вось у васноўным на ўсіх гэтых «шмотках» польскасьць іхняя і трымалася.

З гадамі фанабэрыстасьць **«касьцельных палякаў»** выклікала ў мяне ўсё большую агіду. Я бачыў, як нахабна часам яны сябе паводзяць, бо лічаць сябе «шляхтай», а гэта значыць вышэйшымі за праваслаўных, якія ўсе запісаныя беларусамі.

Адзін мой сябра распавядаў, як ягоны бацька ў 50-я гады будаваў у Лідзе дом. Вакол на вуліцы будаваліся адныя каталікі, дык яны яму ўсяляк шкодзілі ды раілі «ўбірацца... у Маскву». Зараз стары жыве амаль у ізаляцыі, кантакты падтрымлівае толькі зь нешматлікімі праваслаўнымі суседзямі-беларусамі. Так што гэта не павярхоўная зьява, яна мае глыбінныя карані.

На гэтай падставе ў мяне яшчэ зь дзяцінства склаўся пэўны стэрэатып: паляк — гэта ганарлівы, малаадукаваны гандляр.

Але нарэшце і я выправіўся ў Польшчу ў госьці да сяброў. Зразумела, не абмінуў і гандлю, бо трэба было прывезьці якіх-кольвечы пачастункаў сваім блізкім.

Каго ж я сустрэў за нашай бліжэйшай мяжою? А сустрэў выключна дабразычлівых і ветлівых людзей. Яны былі паўсюль. Не забуду, як у Мышынцы на пляцы побач з гожым касьцёлам бабулькі ратавалі мяне ад нейкай гандляркі, убачыўшы, што я зусім не арыентуюся ў коштах. Пасьля гэтае паездкі я яшчэ менш разумею тых людзей у Польшчы, якія старанна працягваюць танчыць з нашым плебсам «крэсавяк», чым далей псуюць стаўленьне да сваёй цудоўнай краіны ў разумных людзей.

Аднак цяпер, што б ні здарылася, я заўсёды буду любіць і паважаць нашых суседзяў. Бо нарэшце зразумеў, чаму Уладзімер Караткевіч называў іх «нашыя браты-палякі».

**Алесь ХРЫШЧАНОВІЧ**

г.Ліда

**P.S.** А ў якасьці прэзэнта дасылаю Вам этыкетку ад новага гатунку Лідзкага піва, якое, можаце мне паверыць на слова, сапраўды кляснае. Як у нас у Лідзе кажуць: «Лідзкае піва — восьмы цуд сьвету».




# Кампраміс паміж дэмакратыяй і камунізмам

Прымаць зараз новую Канстытуцыю Беларусі няма ніякага сэнсу. Гэта надзвычай важная справа, каб давяраць яе цяперашняму Вярхоўнаму Савету, кіраўнікі якога самі прызнаюць, што падтрыхтаваны праект Канстытуцыі — гэта "вынік здаровага кампрамісу". Кампрамісу паміж ідэямі дэмакратыі і камунізму? Каму патрэбна такая Канстытуцыя?! Новы парлямант, дзе, я спадзяюся, бальшыню будуць складаць дэмакраты, усё адно вымушаны будзе замест "кампрамісу" стварацы новы Асноўны Закон.

Дэмакратычная апазіцыя зробіць вялікую памылку, калі ўцягнецца ў вабмеркаваньне гэтага праекту. Трэба адхіліць яго і адназначна ставіць пытаньне: спачатку — рэфэрэндум, новыя выбары на шматпартыйнай аснове, а пасьля дойдзе час і да Канстытуцыі новай Беларусі. Цяпер жа, у "пераходны пэрыяд", дастаткова будзе ўнесьці неабходныя папраўкі і дадаткі ў цяперашнюю Канстытуцыю. Дарэчы, менавіта такім шляхам пайшла Польшча ды іншыя ўсходнеэўрапейскія краіны.

**Андрэй ЛАДЫСЮК**

Менск



**Людзі і сьвіньні.** (Жывёлагадоўчая гаспадарка Бабруйскага завода гумова-тэхнічных вырабаў)

*Здымак С.Г.*

# «Усё і зараз жа»

**Такі дэвіз упрыгожвае адно з украінскіх выданьняў, якое мае назоў «Замкова гора».**

Уяўленьне пра журналісцкі імідж газэты можна атрымаць, прачытаўшы на першай старонцы №5 за г.г. наступнае: «Навошта нам партыя зялёных, калі ў нас ёсьць міністэрства абароны? Дзяржава, магчыма, і павінна праводзіць міралюбную палітыку, але ў войску мусяць служыць людзі, якія любяць вайну... Вайну за Украінскую Дзяржаўнасьць выйграе армія, а панам з тылу мы дамо ўволю памарадзёрнічаць на полі бою і пагандляваць ботамі, якія яны сьцягнуць з трупаў ворагаў. Галоўнае, каб людзі былі задаволеныя» (подпіс: Дмитро Корчинський). Асабіста мне з такой шчырасьцю ў друку сутыкацца не выпадала.

А вось, перагарнуўшы пару старонак, заўважаем знаёмае прозьвішча: М.Козловський. Дык то ж наш зямляк зь Берасьця, пра дзейнасьць якога «Свабода» пісала раней. Што ж новага паведамляецца пра заходніх палешукоў, якіх Мікола Сьцяпанавіч пагалоўна запісвае ва ўкраінцы, нібы ранішні пэнсіянэр запісвае ў чаргу па цукар усіх суседзяў з пад'езда. Аказваецца, што «650-гадовае прабываньне аўтахтоннага ўкраінскага насельніцтва Берасьцейшчыны ў няволі, пад пятою заваёўнікаў нашага краю — літоўцаў, палякаў, немцаў, **іншых** (выдзелена намі — Д.Л.) наклала цяжкі адбітак на ўсе бакі яго жыцьця».

Здаецца, усё выкладзена ясна, апроч аднаго — хто ж такія **іншыя** заваёўнікі? Ці ня мы з вамі? Чытаем далей: «Нашыя продкі, не зважаючы на цяжкія ўмовы, у якіх яны апынуліся пасьля страты незалежнасьці сваёй дзяржавы — Галіцка-Валынскага княства — у 1934 г. (? — Д.Л.) данесьлі да нас і перадалі нам у спадчыну сваю родную ўкраінскую мову, культуру і традыцыі».

Наконт 1934 г. — то гэта будзем лічыць памылкаю. Але ж безапэляцыйнае сьцьверджаньне аб прыналежнасьці заходніх земляў Беларускага Палесься Галіцка-Валынскаму княству — ці дабраахвотная недасьведчанасьць, ці, выбачайце, сьвядомае ашуканства. Рэч у тым, што пачаткова, г.зн. з XI ст., Берасьцейска-Пінская зямля належала Тураўскаму княству і толькі зь сярэдзіны XII ст. само Берасьце разам з навакольлем апынаецца пад уладаю галіцка-валынскіх князёў. (Дык хто каго захапіў?) Што ж да Пінска і Піншчыны, то гэты абшар ніколі не належаў Галіцка-Валынскаму княству.

Корчинський, Козловський... Вядома, пэўная сугучнасьць прозьвішчаў аўтараў газэты «Замкова гора» — проста выпадковасьць. Аднак тое, што абедзьве публікацыі аказаліся на старонках аднаго і таго ж выданьня выпадковым ніяк не назваць. Зьвяртаюся да згаданых аўтараў: мо досыць дзяліць і перадзельваць УСЁ І ЗАРАЗ ЖА?!

**Дамінік ЛОСЬ**

# Валянцін Елізар'еў:
# «Я не дарма ем хлеб»

Беларускі балет і зараз перашкаджае расейскаму — санкт-петэрбургскаму і маскоўскаму — манапольна валодаць сымпатыямі гледачоў розных краін сьвету. Больш таго, яго творчы патэнцыял здаецца невычэрпным.
Зь вядучым харэографам сучаснасьці Валянцінам Елізар'евым, галоўным балетмайстрам Беларускага тэатра опэры і балета, гутарыць наш карэспандэнт Алесь Дашчынскі.

**— Спадар Елізар'еў, Вы стварылі шэраг цудоўных балетаў. І ўсё ж беларусы чакаюць ад Вас нацыянальнага балета. Быў жа калісьці «Салавей»! Ці чуеце Вы тут папрокі ў свой адрас?**

— Я многа гадоў супрацоўнічаў зь беларускімі кампазытарамі. І калі не стварыў спэктакль на беларускі сюжэт, то ён будзе. Найбліжэйшая наша прэм'ера — балет «Анафэма» ("Рагнеда"). Нядаўна яго эскізы зь вялікім посьпехам прынятыя мастацкім саветам тэатра. Спадзяюся, што аддам свае даўгі. Аднак яшчэ невядома, хто каму павінен, бо ўсе гэтыя гады я ствараў калектыў, які нясорамна паказваць ні ў Эўропе, ні ў Амэрыцы, ні ў Азіі. Я не дарма ем тут хлеб.

**— Вось ужо тры гады, як ходзяць чуткі пра «Рагнеду»...**

— Стварыць вялікі сынтэтычны спэктакль — складаная справа. Гэта не бліны пячы. Ведаеце, я магу адчуць сябе рамесьнікам, штампаваць балеты за тры месяцы штуку. Але ж яны будуць і адпаведнай якасьці. Таму кожны спэктакль павінен быць вынашаны сэрцам, розумам, эмоцыямі. Да беларускага спэктакля я рыхтаваўся доўга. Вельмі хочацца спадзявацца, што ён атрымаецца.

**— У гісторыі Беларусі нямала незвычайных жанчын. Чаму Вы спыніліся менавіта на дачцэ Рагвалода?**

— Рагнеда прыцягвае гордасьцю, цэльнасьцю натуры, вялізарнай любоўю да Бацькаўшчыны. На самой справе атрымалася, што Рагнеда пакінула Полацак і вярнулася ў яго. Рагнеда не магла існаваць на чужой зямлі. У спэктаклі будзе шмат цікавых хадоў. Я спасылаюся на летапісы Нестара, на легенды, на кнігі сучасных пісьменьнікаў. Аднак тэатральная вэрсія мае адхіленьні ад аўтэнтычных крыніцаў. Тут будзе каханьне, нянавісьць, пасіі, сьмерці і вялікія духоўныя каштоўнасьці, якія павінны заўсёды заставацца на нашай зямлі, бо прынесены да нас менавіта праз такіх гераінь, як Рагнеда.



*Валянцін Елізар'еў.*
*Паклон у Англіі, пасьля спэктакля "Спартак".*

**— Вы зарабляеце ў 500 разоў менш, чым балетмайстар на Захадзе. Ці не ўзьнікае часам жаданьне ўсё кінуць і зьехаць?**

— Кінуць усё зараз было б шкада. Я настроены на работу і разам з тым на вельмі дрэнныя часы. Нам павінна быць сорамна за тое, у якіх умовах існуе нашае мастацтва. Нас чакае небясьпека: як толькі межы стануць адкрытымі, мы можам згубіць усё найлепшае, што ёсьць на Беларусі. Бо наша лепшае — цалкам канкурэнтназдольнае на Захадзе. Таму трэба імкнуцца стварыць людзям мастацтва больш-менш прыстойныя ўмовы, вартыя іхняга таленту. Гэта ж абсурд, што прыма-балерына ў нас дагэтуль ня мае ўласнай кватэры!..

Хопіць нам арыентавацца на Расею. Гэтая вялікая краіна, на жаль, ставіцца да сваёй культуры ня самым лепшым чынам. Давайце будзем браць прыклад хаця б з Польшчы, Летувы, Украіны.

**— Вашая трупа цяпер часта выступае за мяжой. Хто фінансуе Вашыя гастролі?**

— Як правіла, замежныя фірмы і банкі — амэрыканскія, турэцкія... Яны фінансуюць нашае знаходжаньне за мяжой і, акрамя таго, мы прывозім даволі многа валюты для беларускай культуры.

Гастролі па краінах былога СССР сталі цяпер проста небясьпечнымі, дый фінансаваць іх няма каму. У верасьні нас чакаюць у Стамбуле, куды нас запрасіў турэцкі банк на 10-дзённы юбілейны фэстываль. У лістападзе—сьнежні зьбіраемся ў Бэльгію, Люксэмбург і Францыю. Наперадзе таксама вялікае турнэ па Паўднёва-Усходняй Азіі — Індыя, Сынгапур, Тайвань, Ганконг, Тайлянд, Паўднёвая Карэя і Японія. Беларусі вельмі выгадна, каб мы езьдзілі!

У нас розныя прадусары. Адныя імкнуцца толькі нажыцца на нас, другія — разумныя стратэгі, не баяцца прайграць. Вакол нашага калектыву круціцца нямала прайдзісьветаў з Захаду, якім патрэбна толькі выкарыстаць імя, талент артыстаў, нашыя спэктаклі для хуткага абагачэньня. Аднак, як правіла, трэба шмат укласьці, каб нешта атрымаць. Праекты павінны быць доўгатэрміновымі. Што яшчэ вельмі важна на Захадзе — высока трымаць свой узровень і марку, каб нам заўсёды плацілі шмат. Гэта прэстыжна. Зараз многія беларускія калектывы кінуліся працаваць за бясцэнак, літаральна за сутачныя. Гэтым мы самі сябе зьневажаем. Беларусы павінны мець за кожны канцэрт ці спэктакль ня менш за 100 тысячаў даляраў. А калі згодзен на 10-15 тыс.даляраў, то на цябе глядзяць як на чалавека трэцяга гатунку. Трэба прымусіць Захад паважаць нас і адпаведна плаціць. А гэта ня так проста, бо за мяжой доўгі час нічога ня ведалі пра Менск, а толькі пра Маскву, Ленінград і Кіеў. І яшчэ пра Сібір.

**— Як вы ставіцеся да праблемы нацыянальнага адраджэньня Беларусі, у прыватнасьці, нашай мовы?**

— Гэта вельмі неабходна, таму што рэспубліка настолькі зрусіфікаваная, што далейшае яе разьвіцьцё без нацыянальнага адраджэньня проста немагчымае. На Беларусі ўсе абавязаны ведаць беларускую мову, і яна павінна стаць самым першым сродкам зносінаў. Гэта зусім нармальна. Хаця я сам не беларус па нацыянальнасьці, але лічу, што гэта першы і самы неабходны крок.

Я прадбачу бурнае разьвіцьцё беларускага мастацтва, выкліканае нацыянальнай самасьвядомасьцю. Вельмі важна, каб разьвіцьцё адбывалася на ўзроўні эўрапейскіх, сусьветных дасягненьняў і абапіралася на глыбокую духоўнасьць народа.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Хрысьціяне Домна і Хэльмут

**150 дойчэмарак (па цяперашнім курсе — 27 тыс. руб.) — такую штомесячную пэнсію вырашыў прызначыць беларускай жанчыне Домне Рагалёвай зь вёскі Пронская Лёзьненскага раёна Віцебскай вобласьці нямецкі бізнэсмэн Хэльмут Брандль, уладальнік фірмы HEBRA.**

Ён даведаўся пра Домну Рагалёву з фотанарыса менскага фотарэпарцёра Юрыя Іванова, які быў апублікаваны ў вадным кёльнскім часопісе. Распавядалася, як гэтая адзінокая жанчына-пэнсіянэрка, былая паштальёнка, ужо на працягу многіх гадоў даглядае вайсковыя могілкі, дзе пахавана каля 1,5 тысячы салдатаў, што загінулі тут падчас Другой сусьветнай вайны.

Прачытаўшы гэта, Хэльмут Брандль прыйшоў да рэдактара часопіса і заявіў, што хоча прызначыць Домне Рагалёвай пажыцьцёвую пэнсію ў 150 дойчэмарак, пра што прасіў паведаміць Домне, каб тая назвала нумар банкаўскага рахунка, на які пералічваць грошы.

Адказ зь Менску дужа зьдзівіў і расчараваў Брандля: законы, Хэльмут, у нас пакуль савецкія, і ніякіх марак Домна не атрымае, трэба чакаць лепшых часоў.

Аднак спадару Брандлю чакаць ня хочацца, і 27 верасьня ён сам прыязджае ў вёску Пронская з 7,5-тонным грузам гуманітарнай дапамогі — тэлевізарам, халадзільнікам, лекамі, прадуктамі, адзеньнем ды іншымі рэчамі — для Домны і яе аднавяскоўцаў.

І на заканчэньне інфармацыя да роздуму: Домна глядзіць за магіламі не нямецкіх, а савецкіх салдат; бацька і два старэйшыя браты Хэльмута служылі ў Вэрмахце і загінулі на ўсходнім фронце, месца пахаваньня невядомае...

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



**Домна Рагалёва.**
*Здымак Юрыя ІВАНОВА*

# Той самы Прушынскі

**Магчыма, неўзабаве насельніцтва Беларусі павялічыцца яшчэ на аднаго чалавека — Аляксандра Прушынскага, грамадзяніна Канады, які ўжо пачаў рабіць захады, каб атрымаць беларускае** грамадзянства.

Па словах пана Прушынскага (а гэтыя словы набылі візуальнае ўвасабленьне на старонках польскай газэты «Nowy dziennik», якая выдаецца ў Нью-Ёрку), ён нарадзіўся на Гарадзеншчыне ў арыстакратычнай польскай сям'і, якой належала 540 га зямлі з палацам памераў Бэльвэдэру (рэзыдэнцыя прэзыдэнта Польшчы). У палацы зараз месьціцца ўправа калгаса імя А.Міцкевіча, бібліятэка і клюб.

Пан Прушынскі заклапочаны ня толькі становішчам палякаў на Беларусі, пра якіх ён багата і жаласьліва апавядае. Яго цікавіць таксама разьвіцьцё беларускага заканадаўства. Рэч у тым, што некаторыя краіны, прыкладам, Чэха-Славаччына прынялі законы аб вяртаньні маёмасьці, сканфіскаванай некалі камуністамі, ранейшым уладальнікам. Канадзкі грамадзянін чуў, што ў суседнім зь «яго родным» калгасе ўсю зямлю падзялілі паміж калгасьнікамі, баючыся вяртаньня ранейшага ўладальніка абшараў, які зараз жыве ў Лёндане.

А.Прушынскі не патрабуе вяртаньня ўсяго маёнтка, а жадаў бы атрымаць дом на тэрыторыі палацавага комплексу. Жыць стала хацеў бы ў Менску. Кажуць, ён нібыта ўжо выдае тут польскую газэту.

Хто ўдзельнічаў у Крыжовым ходзе менскіх каталікоў з нагоды сьвята Божага Цела 21 чэрвеня 1992 г., магчыма, памятае чалавека, які нёс імправізаваны польскі штандар. Гэта і быў наш будучы суайчыньнік пан Прушынскі.

**З.С.**



**Нашы?**
*Здымак С.Г.*

# Ландсбэргіс сустрэўся з Шушкевічам і ...

... і пацьвердзіў намер Летувы трымацца асобна ад любых постсавецкіх, непазьбежна масквацэнтрысцкіх, саюзаў. С.Шушкевіч пры гэтым выглядаў «благодушно» і непадрыхтавана, задэманстраваў павярхоўны характар беларускае палітыкі ў ваднасінах да Летувы, некалькі разоў назваў беларускую вёску Гервяты летувіскім словам Гярвечяй, сказаў пра «дастойны беларускі цэнтр, які арганізуецца ў Вільні»... Дастойны каго?

С.Шушкевіч відавочна недаацэньвае тыя 63 тысячы беларусаў, якія жывуць на Віленшчыне. І ня толькі таму, што дастойным цэнтрам назваў дзьве яшчэ канчаткова не перададзеныя кватэры. Але й таму, што іх, беларусаў, разам з «касьцельнымі палякамі», якія гавораць па-беларуску, тут у некалькі разоў больш, чым беларусаў «пашпартных». Недаацэньвае й таму, што іх ніяк нельга прыраўняць да тых некалькіх тысячаў летувісаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі. І нельга ня толькі паводле колькасьці.

Трэба ўлічваць спэцыфіку беларускага насельніцтва Віленшчыны, у якога за Сталіным была вынішчаная пагалоўна ўся інтэлігенцыя — настаўнікі, журналісты, палітыкі, сьвятары, паэты; а за гады Савецкае Летувы рабілася ўсё, каб новае інтэлігенцыі ня ўзьнікла. Гэткага генацыду не спазнала вясковае летувіскае насельніцтва з Гервятаў ды іншых вёсак. Прынамсі, лёс гэтага насельніцтва не вызначаў занапад усяе Летувы.

Гервятам Летува патрэбная нашмат больш, чым Летуве Гервяты. Беларусі Вільня патрэбная нашмат больш, чым віленскім беларусам Рэспубліка Беларусь. І цяпер, калі Вільня аддаляецца, адрываецца, зьнікае для Беларусі, варта зноў нагадаць, што беларусы маюць на гэты горад такое ж права, як і летувісы.

У 1939 г. Вільня рыхтавалася далучыцца да Беларусі, ажно раптам была перададзеная (фактычна падораная Сталіным) Летуве, — гэта выклікала шок ва ўсяго насельніцтва горада.

Паміж Вільняй і Беларусьсю ніколі ў гісторыі не было мяжы. І тая міждзяржаўная дамова, якая рыхтуецца сёньня, можа стацца першай юрыдычнай фіксацыяй зусім новай гістарычнай рэальнасьці, прызнаньнем, працягам сталінскага свавольства, адарваньнем ад Беларусі яе земляў зь яе насельніцтвам, згодай з усім, што было, ёсьць і будзе рабіцца на шкоду Беларусі і беларусам. Інакш кажучы, апынуўшыся ў ролі дыктоўшчыка, у якога ў руках усе юрыдычныя, маральныя і гістарычныя правы, С.Шушкевіч удае зь сябе вучня, гатовага пісаць дыктоўкі іншых.

Вядома, ніякае праблемы й ніякіх стратаў для Беларусі тут не было б, калі б менскае кіраўніцтва імкнулася на спраўджаным гістарычным шляху да ўсё большае інтэграцыі зь Летувой, да рэальных сувязяў, а не да брэжнеўскіх рэвэрансаў быццам бы «дружбы народаў» пры ўсё большым разрыве, адчужэньні, дэзынтэграцыі. Як гэта ні парадаксальна, адмаўляючыся ад прэтэнзіяў на Віленшчыну, С.Шушкевіч запачаткоўвае тут міжрэгіянальны канфлікт. Міжнацыянальная напружнасьць у рэгіёне расьце з кожным новым памежным КПП, з кожнай новай забаронаю і абмежаваньнем правоў чалавека, з кожным новым крокам летуанізацыі... Але што рабіць, калі цяперашняму кіраўніку Беларусі бліжэй іншыя арыенціры, у зваблівым сьвятле якіх наш край спрадвеку абпальваў свае крылы! І сёньня Беларусь замест таго, каб дбаць пра сваё, цягнецца да Масквы, каб падбалі пра яе.

**У такой сытуацыі С.Шушкевічу застаецца адно з двух: альбо прыняць такую міждзяржаўную дамову, у якой будзе забясьпечаная цэльнасьць Віленшчыны, яе адзінага этнакультурнага рэгіёну (куды ўваходзяць і Ашмяны, і Астравец, і Смаргонь), вольны доступ да Вільні ўсяму народу Беларусі, вольную цыркуляцыю насельніцтва. Альбо цягнуць час, адкладаць падпісаньне дамовы, пакуль на ягонае мейсца ня прыйдзе больш падрыхтаваны палітык.**

Непрадуманыя і неабарачальныя палітычныя рашэньні, якія б «дабразычлівыя» яны ні былі, звычайна й робяцца падставаю міжнацыянальных войнаў, супраць якіх і Шушкевіч і Ландсбэргіс так згодна выступалі на сустрэчы ў Гервятах.

**С.ПАЎЛОЎСКІ**

Вільня.

# Палітыка і філялёгія

**Дзяржаўная камісія летувіскае мовы пры Найвышэйшай Радзе Летувы зьвярнулася да віленскіх польскіх выданьняў з патрабаваньнем ужываць назвы летувіскіх мясцовасьцяў у летувіскім напісаньні. Напрыклад, замест «Wilno» — «Vilnius», «Troki» — «Trakai» і г.д.**

Гэткае патрабаваньне выклікае шырокую нэгатыўную рэакцыю ня толькі сярод палякаў. Супраць выказаўся таксама вядомы летувіскі паэт Томас Венцлава, які жыве ў Амэрыцы.

Праўда, гэткая праблема наўрад ці будзе зразумелая работнікам сродкаў масавай інфармацыі на Беларусі, дзе замест традыцыйнага беларускага слова «Вільня» дагэтуль ужываюць санкцыянаванае ў свой час Масквой, неўласьцівае беларускай мове «Вільнюс».

**С.П.**

# Вільня: кропку ставіць яшчэ рана

Няшмат хто возьмецца сьцьвярджаць, што сёньняшні status-quo Вільні абсалютна канчатковы. Гэты горад толькі на працягу XX ст. зьведаў два разы кардынальную зьмену свайго этнічнага балянсу, безьліч разоў бачыў новыя ўлады ды акупацыйныя рэжымы. Ва ўмовах крызысу Хэльсынскай сыстэмы Эўропы, што грунтуецца на Ялцінска-Патсдамскім падзеле кантынэнта, зноў актуальнай робіцца будучыня Вільні. Прычым Вільню нельга адарваць ад Віленшчыны, а ў гэтым краі этна-культурныя працэсы зусім ня страцілі складанасьці.

Па заўвагах летувіскіх сацыёлягаў дэкляратыўнае далучэньне жыхароў Віленшчыны, якія не зьяўляюцца летувісамі, да той ці іншай нацыі, грунтуецца часьцей за ўсё не на роднай мове. Адныя з тых, хто размаўляе на адной і той жа мове — так званай мясцовай — лічаць сябе прадстаўнікамі летувіскай, другія — беларускай, іншыя — расейскай нацыянальнасьці, але найбольшая колькасьць лічыць сябе палякамі. Сфармаваныя ў выніку дзеяньня розных гістарычных чыньнікаў адрозьненьні ў нацыянальнай самасьвядомасьці ў падобным моўным асяродку часам робяцца прычынаю супрацьстаяньня людзей. Дзесятая частка насельніцтва Салечніцкага раёна лічыць, што прычыны сёньняшніх нацыянальных непаразуменьняў бяруць свой пачатак яшчэ з пэрыяду валадараньня Ягайлы, альбо пасьля польскай акупацыі 1920 г. Але большасьць тых, хто даў станоўчы адказ (каля трацiны ўсіх апытаных), мяркуюць, што прычыны трэба шукаць у палітыцы часоў савецкага рэжыму. Пры гэтым адныя вінавацяць Крэмль, іншыя — летувіскі савецкі рэжым.

Летувіскія этналінгвісты лічаць, што ў XIX ст. на Віленшчыне беларуская мова выконвала унівэрсальныя функцыі, давала розным нацыянальным групам магчымасьць кантактаваць з расейскімі чыноўнікамі ды польскімі ксяндзамі.

Гістарычныя ўмовы, якія перадвызначылі славянізацыю балцкіх земляў, сфармавалі сёньняшнюю моўную структуру насельнікаў Віленшчыны. Гутарковую мову жыхароў краю нельга аднесьці да нейкай пэўнай мовы: гэта сымбіёз славянскіх і балцкіх элемэнтаў зь перавагаю першых. Часьцей за ўсё так званую мясцовую размоўную гаворку адносяць да дыялекту беларускай мовы. Самі жыхары называюць яе польскай, беларускай, тутэйшай, альбо моваю «па-просту».

Па дадзеных перапісу 1989 г. у Віленскім раёне палякі (па самаакрэсьленьні) складаюць 63,5% насельнікаў, у Салечніцкім (на поўдзень ад Вільні) — 79,6%. Дзесятая частка жыхароў Віленшыны, якая лічыць сябе палякамі, мяркуе, што іх мова такая ж, як і ў Польшчы. Большая частка лічыць, што гэта сумесь беларускай ды польскай моў.

Па дадзеных сацыялягічных дасьледаваньняў, праведзеных на Віленшчыне ў 1989-1991 гг. Інстытутам філёзофіі, сацыялёгіі і права Акадэміі навук Летувы, найбольшая колькасьць прыхільнікаў гэтага погляду пражывае ў Салечніцкім раёне — 50%. Таксама палякі Салечніцкага раёна часьцей, чым палякі Віленскага ды Сьвянцянскага раёнаў гавораць, што іхняя мова — гэта дыялект беларускай мовы.

Такім чынам, этнатворчыя працэсы на Віленшчыне ня скончыліся. І яны будуць, напэўна, аднымі з галоўных чыньнікаў магчымых зьменаў.

**Алег ДЗЯРНОВІЧ**

# Вёска Раманава ў ваблозе

**Стаялі побач дзьве вёскі: Ракі і Раманава. У вабедзьвюх жылі беларусы. Потым іх разьдзяліла мяжа.**

Першая вёска апынулася ў Летуве і стала называцца Ракай. Другая — знаходзіцца ў Шчучынскім раёне Беларусі. Але каб трапіць у яе зь Першамайскага сельсавету, да якога яна належыць, трэба ехаць праз летувіскую тэрыторыю. Аднак цяпер на дарозе стаяць дзьве мытні — беларуская і летувіская. І каб зьезьдзіць раманаўцам у свой сельсавет, ім трэба чатыры разы праходзіць мытны дагляд. І гэта было б яшчэ ня самае горшае, каб гэтым летам летувісы не перакапалі лясныя дарогі. Цяпер у Раманава ні заехаць ні выехаць. Карацей, апынуліся вяскоўцы ў чужой аблозе, хоць жыць засталіся ў сваёй краіне.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Гомель як люстэрка беларусізацыі

Тэатр пачынаецца зь вешалкі — горад пачынаецца з вакзала. На Гомельскім чыгуначным вакзале аб'явы яшчэ летась пачалі рабіць па-беларуску. Прыемна ўражвае гэта, калі пачуеш упершыню. Бо нават у стольным Менску ніяк не пазбавяцца ад «великаго и магучаго». Аднак калі прыслухаешся да тых аб'яваў, робіцца трошкі ніякавата — людзі чуюць іх і думаюць, пэўна, што й сапраўды гэта па-беларуску: «Скоры цягнік зносінамі Рыга-Адлер прыбывае на пяты пуць, трэцюю платформу...» Калі дадаць сюды цалкам расейскі акцэнт дыспэтчара ды «трасяначнае» вымаўленьне, то ад беларускай мовы анічога не застаецца. Адно толькі — горыч і сорам.

Па-рознаму можна ставіцца да такой вось беларусізацыі на чыгунцы. Аднак спробу нешта зьмяніць, каб ня сорамна было перад сваімі суседзямі ўкраінцамі, дзе даўно ўжо ўсе аб'явы гучаць на «рідній» мове, можна толькі вітаць. Дай Божа, каб гэты сорам стаў для беларусаў рухальнай сілай у беларусізацыі, каб беларусу сорамна было не за тое, што ён гаворыць на роднай, «калхознай» мове, а за тое, што ён не гаворыць на ёй.

Пакуль жа на гомельскіх вуліцах, у аўтобусах і тралейбусах хутчэй пачуеш азэрбайджанскую, цыганскую, альбо армянскую мову, чымся беларускую. І гэта ў горадзе, насельніцтва якога за пасьляваенны час вырасла ў дзесяткі разоў за кошт моладзі зь беларускамоўнага наваколья. У рабочых раёнах тут склаўся свой, асаблівы «язык», які з-за выключнага вымаўленьня беларускім не назавеш, але і расейцы адкуль-небудзь з-пад Разані альбо з-за Урала за свой не прымаюць, бо пазнаюць і разумеюць хіба што толькі словы «да» і «нет».

Недзе ў 1988 годзе гомельскія сьведамыя беларусы — «талакоўцы» задумалі дамагчыся хаця б аднаго на паўмільённы горад беларускага кляса ў школе. Прайшліся па бацькох будучых першаклясьнікаў у вадным з раёнаў — «сельмашаўскім». Заявы ў беларускі кляс напісалі каля трох дзесяткаў бацькоў зь некалькіх сотняў. Аднак кляс так і ня быў адчынены — да 1-га верасьня большасьць бацькоў свае заявы забралі. Высьветлілася, што дырэктар і завуч школы правялі контрагітацыю — навошта ім лішнія клопаты. «Мы самі вучылі беларускі язык, но зачэм он цяпер», — казалі бацькі апускаючы долу вочы. Не забралі заявы толькі тры сям'і. І ўсе бацькі, як высьветлілася потым, — расейцы, якія прыехалі ў Гомель на ўдарную камсамольскую будоўлю...

Сёньня, калі пачалася ў Гомелі сякая-такая афіцыйная беларусізацыя, не сустракае яна тут, у рабочых раёнах, асаблівага супраціву. Пэўна, нацыянальны характар беларуса праяўляецца і ў гэтым: «трэба дык трэба...». І зьмену шыльды з назвай вуліцы «Победа» на «Перамога» ўспрымаюць як належнае. Таму, калі сёлета ў Гомелі прынялі рашэньне перавесьці з пачатку навучальнага года першыя клясы большасьці гарадзкіх школаў на беларускую мову навучаньня, гвалт падняла пераважна касмапалітычная (прасьцей сказаць — зрасейчаная) інтэлігенцыя зь перараджэнцаў. Пачала лямантаваць абласная газэта і адна з гарадзкіх.

Аргумэнты прыводзяць зусім дзіўныя: «Гомель только в 1926 году был передан Белоруссии», «Гомель — это исконно русский город»... Усё гэта адкрыта, у межах, трэба разумець, плюралізму. Аднак ніхто не нагадае, што Смаленск і Бранск і сёньня яшчэ не перададзены Беларусі, што на беларускім дыялекце і зараз там гавораць і сьпяваюць старыя людзі...

Падключыўся да газэтнай дыскусіі і дацэнт Гомельскага дзяржунівэрсытэту А.Рогалеў, які некалі зрабіў сабе імя на беларушчыне. Вы думаеце ён падтрымаў беларусізацыю? Не — ён зусім сур'ёзна і «навукова» даказвае, што беларуская мова пашкодзіць дзеткам, што «прымушаць» і «ўціскаць» — недапушчальна... Чаго ўжо тады чакаць ад звышінтэрнацыяналістаў, якія апроч расейскае мовы не прызнаюць аніякай, ківаючы пры гэтым на дружбу народаў.

Але самае небясьпечнае, што працаўнікі беларусізацыі пачынаюць палохаць гомельцаў «новым Карабахам» і «ещё одним Приднестровьем», а некаторыя нават абяцаюць зьвярнуцца па дапамогу да «старэйшага брата» і заяўляюць, што не пабаяцца «нават крыві», калі ня скончацца «притеснения русскоязычного населения»..

Хочацца сказаць ім: годзе, «товарищи», расплюшчыце вочы, вы жылі ў перакуленым грамадзтве, дзе ўсё было пастаўлена з ног на галаву. Ні ўціску, ні прымусу ня бачылі вы ў тым, што ні ў Гомелі, ні ў сталіцы Беларусі не было ніводнай беларускамоўнай школы, ніводнага беларускамоўнага кляса. А сёньня, калі беларус трошкі-трошкі аслабіў пятлю на шыі — вы зноў хочаце тужэй зацягнуць яе. Каб прыдушыць зусім. Пабойцеся Бога!

Тэатр пачынаецца зь вешалкі — беларусізацыя пачынаецца з садкоў і школак. Гэта ісьціна, якую не аспрэчыш. Адзін знаёмец, які прыехаў нядаўна з Украіны, выказаў сваё зьдзіўленьне пабачаным: «Там дарослыя гавораць у гарадох у большасьці па-расейску, а дзеці — амаль усе па-ўкраінску...» Ці будзе і ў нас хоць гэтак?

**Б.С.**

26 жніўня праваслаўныя адсьвяткавалі дзень зьяўленьня ў Менску абраза Менскае Божае Маці, які цяпер знаходзіцца ў менскім Сьвятадухавым катэдральным саборы, што на пляцы Волі. У гэты дзень правіліся ўрачыстыя літургіі ва ўсіх праваслаўных цэрквах Беларусі.

# ПАКУТЫ МЕНСКАЕ БОЖАЕ МАЦІ

У 988 г. з грэцкага горада Карсуні, або Хэрсанэсу, быў перанесены ў Кіеў абраз Божае Маці. Яго паставілі ў толькі што пабудаванай царкве Нараджэньня Божае Маці, або Дзесяцiннай. Ікона знаходзілася тут больш за 500 год, пакуль на Кіеў не напала Крымская арда на чале з ханам Махмэт-Гірэем. Тады адзін татарын, садраўшы са сьвятога абраза каштоўныя аздобы, кінуў яго ў Дняпро.



Увечары 13 жніўня 1500 г. менчукі нечакана заўважылі на Сьвіслачы дзіўнае зьзяньне. Яно ахутвала невядомы ім дагэтуль абраз Божае Маці; але ўцекачы-кіяўляне адразу пазналі яго. Абраз вельмі ўрачыста пранесьлі ў сабор Менскага замку, які стаяў на сутоку Нямігі і Сьвіслачы. Цікава, што пасьля Кіева — стольнага горада Украіны, — абраз апынуўся ў Менску, якому гісторыя рыхтавала ролю сталіцы Беларусі.

Не падлягае сумневу, што ікона гэтая паходзіць зь Бізантыі. Легенда нават кажа, што маляваў яе сьвяты Лука, падобна як і віленскі абраз Божае Маці Вострабрамскае або абраз Божае Маці ў Чэнстахове.

Гісторыя данесла да нас, што ў 1505 г. вялізная арда Махмэт-Гірэя падышла да Менску. Рыхтуючыся да няроўнае бітвы, менчукі адправілі перад сьвятым абразом малебен. Пасьля, натхнёныя малітвай, з воклічам: «Памром за наскую Божую Маці!» яны са зброяй у руках сустрэлі татараў. Махмэт-Гірэй спаліў Менск, але сам замак ня здолеў узяць. Калі, паланіўшы 100 тысяч сялянаў, хан хутка варочаўся да Крыму, дык нечакана сустрэў пад Клецкам беларуска-літоўскае войска. Ягоная арда была зьнішчана дашчэнту.

Бязьлітасны час паступова разбурыў і замак, і ягоны сабор. Таму ў 1616 г. сьвяты абраз перанесьлі ў царкву уніяцкага Духаўскага манастыра, што займаў частку Высокага Места, якая тады называлася Лужай. Характэрна, што ў 1773 г. архімандрыт Любянецкі адказаў 1000 талераў, каб адмысловая капэля штодзённа раніцай і ўвечары выконвала ў гонар Менскае Божае Маці велічны рэлігійны гімн «Вітаю Цябе, Каралева!».

Яшчэ ў XVII ст. на мейсцы Духаўскае царквы пабудавалі Петрапаўлаўскую. Пасьля скасаваньня уніі яе ператварылі ў катэдральны сабор і пачалі грунтоўна перарабляць, зьнішчаючы ў ім усё беларускае. Усё ж левы прастол сабору быў асьвячаны ў імя сьвятога Кірылы Тураўскага, а правы — у імя абраза Менскае Божае Маці. Тут жа знаходзіўся й сьвяты абраз, перад якім заўсёды маліліся вернікі. У 1852 г. апранулі Яе ў новую прыгожую срэбную рызу, і штодня пасьля літургіі, укленчыўшы перад Ёю, сьпявалі трапар «Пад тваю міласьць прыбягаем, Багародзіца Дзева».

У 1921 г. новыя ўрадоўцы зьдзіраюць зь іконы Менскае Божае Маці срэбную рызу й карону, упрыгожаныя брыльянтамі. Усе гэтыя каштоўнасьці пайшлі ня столькі на змаганьне з голадам у Паволжы, колькі на агітацыйныя мэты. Улетку 1936г. яны падрываюць Петрапаўлаўскі катэдральны сабор. Пры гэтым зьнікае непараўнальна больш каштоўны для вернікаў, чым золата й брыльянты, абраз Божае Маці. Праз два гады зьнікае таксама высокамастацкая копія зь яго, што захоўвалася ў Марыінскім катэдральным касьцеле й заўсёды шанавалася беларусамі-каталікамі. Каб падкрэсьліць свой зьдзек з рэлігіі, новыя рабаўнікі скарысталі тую пляцоўку, дзе знаходзіўся сабор, для вандроўных зьвярынцаў.

У часе нямецкай акупацыі цудоўная ікона была знойдзена мастаком Габрыелем Віерам, былым мастаком-рэстаўратарам Беларускага Дзяржаўнага музэю. Больш за год працаваў мастак над кансэрвацыяй і аднаўленьнем абраза. Выявілася, што пачаткова абраз быў значна меншы і намаляваны ў зусім іншым — бізантыйскім — стылі. Толькі пасьля, магчыма, у XVI ст., калі ікона зьявілася ў Менску, або яшчэ пазьней, яна была павялічана за кошт даштукаваньня дзьвёх дошчак, адной з боку і другой зьнізу. Тады ж, відаць, быў часткова зьменены і малюнак, набліжаны да вымогаў беларускага царкоўнага жывапісу таго часу, ды быў дадзены скіпэтр — сымболь каралеўскае ўлады.

У 1943 г. пасьля адбудовы праваслаўнае катэдры сьвятых Пётры і Паўла (яшчэ яе называюць Жоўтаю царквою) ікона Менскае Божае Маці была перанесены ў спэцыяльна збудаваны ківот. Цяпер яна знаходзіцца ў праваслаўнай катэдры — былым касьцеле сясьцёр Бэрнардынак.

*Паводле Ю.Віцьбіча і А.Шукелойця падрыхтаваў* **Зьм. САЎКА**

## Паломніцтва ў Аглону

**З паломніцтва да цудадзейнае іконы Аглонскай Божай Маці (м.Аглона пад Даўгаўпілсам, Латвія), вярнуліся полацкія вернікі. Прысьвячалася паломніцтва сьвяту Усьпеньня Багародзіцы, а ладзіла яго каталіцкая царква.**

Ішлі зь мястэчка Зілупэ, што побач зь мяжою Беларусі, Латвіі і Расеі. 110 кілямэтраў за тры з паловай дні па тэрыторыі Латгаліі. Латгалы не вылучаны ў Латвіі ў васобную аўтаномію, але маюць свае школы, тэлебачаньне, касьцёл (яны пераважна рыма-каталікі ў вадрозненьне ад пратэстантаў латышоў).

Сустракалі паломнікаў надзвычай прыязна: з кветкамі і гасьцінцамі. Нават з моваю не было праблем: мясцовыя вяскоўцы ўсё разумелі па-беларуску, бо самі гавораць на... беларускай «трасянцы». Нічога дзіўнага: усходняя частка Латгаліі — этнічна блізкія для нас землі.

Ксёндз з Зілупэ нават запрашаў нас заставацца: абуджаць сьвядомасьць тамтэйшых беларусаў, каб не перабягалі ў палякі.

Калі прыйшлі ў Аглону — мястэчка было запруджана людам. Рыма- і грэка-каталікі зь Беларусі, Украіны, Расеі, Латвіі, Францыі і іншых краін замежжа ішлі да Аглонскае Божае Маці, каб загаіць раны цялесныя і ўзмацніцца духам.

У касьцёле адбыліся набажэнствы на латгальскай (усяночная), беларускай, польскай, расейскай, украінскай і лацінскай мовах. Як па ўсходнім, так і па заходнім абрадах.

**Ларыса МАЛАШЭНЯ**

## «ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ДУМКА»: №1 і 211

**Зьявіўся сьвету доўгачаканы першынец Беларускае Каталіцкае Грамады — часопіс «Хрысьціянская думка» — першае і пакуль адзінае выданьне падобнага тыпу ў сучаснай Беларусі.**




Часопіс зьяўляецца як бы спадкаемцам аднайменнага выданьня хрысьціянскіх дэмакратаў Заходняй Беларусі (выйшла 210 нумароў). Сьціплыя выдавецкія і фінансавыя магчымасьці не дазволілі зрабіць зьнешні выгляд нумара дастаткова прэзэнтабэльным, адпаведным багатаму і разнастайнаму зьместу.

Сымбалічна, што адзін з галоўных матар'ялаў (аўтар Анатоль Сідарэвіч) прысьвечаны 100-годзьдзю з дня нараджэньня выдатнага адраджэнца кс.Адама Станкевіча — выдаўца-рэдактара колішняй «Хрысьціянскае думкі». Алесь Бяляцкі распавядае аб Браславе і браслаўскай парафіі. Многія матар'ялы разьлічаны на інтэлігентнага, дасьведчанага чытача. Беларусь і Партугалія: нечаканыя паралелі ў публікацыі Яўгена Шунейкі «На ўзьбярэжжах». Як называць Бога: Пан, Госпад, Спадар? (дасьледаваньне Алеся Жлуткі). Паэзія Казімера Сваяка, разважаньні біскупа Часлава Сіповіча пра асновы беларускага патрыятызму, апавяданьне пра жыцьцё сусьветна вядомага айца Піо (пераклад кс.Уладыслава Чарняўскага) — гэтае ды многае іншае вы знойдзеце на 190 старонках часопіса. Далей мяркуецца выдаваць чатыры нумары на год.

У канцы нумара пададзены пераказ зьместу на пяці мовах — італьянскай, ангельскай, польскай, украінскай і летувіскай.

Рэдакцыя «ХД» выказвае падзяку газэце «Свабода» за тэхнічную дапамогу. Але гэта не адзінае, што аб'ядноўвае нашыя выданьні: ужо стала «добрай традыцыяй», што ўрад Рэспублікі не дае на незалежныя беларускамоўныя друкі ні капейкі, ні шматка паперы — нічога.

Наклад «ХД» 3 тысячы. Кошт 25 руб. Адрас для карэспандэнцыі: *220029 Менск, вул.Багдановіча 7а.*

**Рэдакцыя «ХД»**

## Мітрапаліт Філарэт зьбіраецца «ачысьціць» беларускую мову

**Менскае выдавецтва «Полымя» выпусьціла «Беседы с митрополитом Филаретом». Зь іх можна даведацца, што Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі — патрыёт.**

«Нацыяналізм, — лічыць ён, — супярэчыць Сьвятому Пісьму і вучэньню Царквы — жыць у міры з усімі людзьмі і служыць сваім братам незалежна ад іх нацыянальнасьці. Таму хрысьціянін ні пры якіх умовах ня можа быць нацыяналістам, ён абавязаны быць патрыётам».

Як жа тлумачыць Сяргей Ожэгаў гэтыя паняцьці ў расейскай мове? Найбольш прымальнае для Беларусі — «нацыяналізм — рух за незалежнасьць народа і краіны супраць іншаземных рабавальнікаў, супраць каляніялізму».

А што такое патрыятызм? Гэта «адданасьць і любоў да сваёй Айчыны, да свайго народу і гатоўнасьць да любых ахвяраў і подзьвігаў у імя інтарэсаў сваёй Радзімы».

Нагадаю яшчэ некаторыя факты з «Бесед...». Мітрапаліт Філарэт нарадзіўся ў Маскве, скончыў Маскоўскую Духоўную сэмінарыю і акадэмію. З 1978 года — на Беларусі. Дарэчы (зь іншых крыніцаў), расейскі боршч мітрапаліт Філарэт любіць больш, чым нямецкі канцэнтрат, а мэдыцынскае абсьледаваньне штогод праходзіць у маскоўскіх дактароў...

«А тое, што расейская мова глыбока ўвайшла ў рэчаіснасьць нашага шматнацыянальнага грамадзтва, дык тут, канешне, ня трэба шукаць якой-небудзь пагрозы нацыянальнай беларускай культуры. Яна ў нас пасьпяхова разьвіваецца, — кажа ў «Беседах...» уладыка Філарэт. — А тое, што расейская мова на вялізарнай тэрыторыі многім зразумелая, тое, што яна стала сродкам міжнацыянальных зносін — у гэтым аспэкце яе роля і значэньне незаменныя і гістарычна абгрунтаваныя...»

«Гаворачы пра беларускую мову, — працягвае мітрапаліт Філарэт, — хачу адзначыць, што, напэўна, варта было б ачысьціць яе ад усякіх наслаеньняў, каб яна сапраўды была мовай народа, была б прасякнутая народным духам. І яшчэ... Бывае іншы раз, на жаль, і такі падыход — толькі б ня быць падобнай на расейскую...»

Цікава, як адбываецца гэтая «чыстка» пры перакладзе Сьвятога Пісьма на беларускую мову? Ва ўсякім разе гэты пераклад падаецца некаторымі праваслаўнымі як подзьвіг, а не як звычайная, абвязковая праца царквы. «Калі якія-небудзь абшчыны ў нашай рэспубліцы пажадаюць маліцца на беларускай мове, — супакоўвае мітрапаліт Філарэт у «Беседах...», — гэта іх законнае права. Я гэта вітаю». Дзякуй і за гэта.

На жаль, такая сытуацыя складаецца ў краіне, дзе беларусы не зьяўляюцца нацыянальнай меншасьцю.

**А.Д.**

У Горадні адчынілася завочная філія Маскоўскага каледжа каталіцкае тэалёгіі сьв.Тамаша Аквінскага. Навучаньне будзе на расейскай мове. Курс разьлічаны на тры гады, выпускнікі атрымаюць дыплём аб багаслоўскай адукацыі.

**С.М.**

## У музэі — помнікі, а ў касьцеле — сьвята

**Тры дні (28-30 жніўня) ў каталікоў Берасьця было вялікае сьвята — асьвяцілі адрамантаваны касьцёл у цэнтры горада (былы краязнаўчы музэй), на якім зьявіліся два званы: Ян Павел II і біскуп Зыгмунт Лазінскі.**

Акрамя таго, са старой капліцы Крыжовым ходам праз паўгорада была перанесена ў касьцёл цудатворная ікона Маці Божай Берасьцейскай, якая датуецца XVII стагодзьдзем і зьяўляецца унікальным абразом.

Адбылася імша на беларускай і польскай мовах. Ва ўрачыстасьцях браў удзел біскуп Казімер Сьвёнтак.

**Ігар БАРАНОЎСКІ** (WIS)

# ЦЫГАНЫ НА ФОНЕ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЕРАМЕНАЎ ВА УСХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ

Золтан Д.Барані

Дэмакратычныя пераўтварэньні, што адбываюцца ў краінах Усходняй Эўропы з 1989 года, унесьлі яшчэ больш супярэчнасьцяў у жыцьцё цыганоў, якія становяць найбольшую этнічную меншасьць у гэтым рэгіёне.
Нягледзячы на тое, што цыганы цяпер маюць права ствараць палітычныя арганізацыі для абароны сваіх інтарэсаў, іх дачыненьні з усходнеэўрапейскімі народамі застаюцца надта праблематычнымі, а ў некаторых дзяржавах умовы іх жыцьця значна пагоршыліся.

## Цыганская «праблема»

Цыганы пакінулі сваю старажытную бацькаўшчыну тысячу гадоў таму. Тым ня менш, нават у нашыя дні ў краінах Эўропы і абедзьвюх Амэрык іх сустракаюць з засьцярогай. Напэўна, найважнейшая прычына такога стаўленьня да іх — гэта не адрозны выгляд (цёмная скура, адметная вопратка і г.д.), а хутчэй за ўсё іхны лад жыцьця, які іх рэзка вылучае з таго асяродзьдзя, у якім яны жывуць. Хоць большасьць цыганоў цяпер жыве асела, засталася значная група і такіх, што пасьлядоўна супраціўляюцца спробам інтэграваць іх у грамадзтвы паасобных краін і ня хочуць адмаўляцца ад традыцыйнага вандроўнага ладу жыцьця.

Менавіта гэтае нежаданьне цыганоў забыцца пра свае традыцыі стала косткай у горле пасьляваенных камуністычных урадаў, якія хацелі стварыць паслухмянага «новага сацыялістычнага чалавека». Той факт, што цыганы займалі першыя радкі ў статыстыцы па ўзроўні злачыннасьці, беспрацоўя і непісьменнасьці, таксама не дадаваў ім папулярнасьці ў вачах кіраўнікоў і насельніцтва сацыялістычных дзяржаў.

Камунізм пацярпеў фіяска, але нявырашаныя пытаньні засталіся. І цяпер цыганы ствараюць праблемы ўжо для посткамуністычных лідараў. Аднак нельга судзіць гэтае няўрымсьлівае племя толькі з пазыцыяў сёньняшняга дня. Трэба спачатку заглыбіцца ў гістарычныя акалічнасьці, што спрычыніліся да такой сытуацыі. Закрыты характар цыганскага жыцьця, які падмацоўваўся нязьменна варожым стаўленьнем з боку навакольнага жыхарства, прывёў да ізаляцыі большасьці цыганоў ад астатняга сьвету і, як вынік гэтага, да няздольнасьці абараняць сябе і свае інтарэсы. Ува ўсходнеэўрапейскім рэгіёне зараз адчуваецца ўсплёск нацыяналізму і непрыхаванага расызму; цыганоў часта робяць ахвярнымі казламі і звальваюць на іх усю віну за рост злачыннасьці ды гвалту. Адмаўляць існаваньне праблемы злачыннасьці сярод цыганоў было б гэтак сама несправядліва, як і сьцьвярджаць, што ўсе цыганы — злодзеі. Нявартa забывацца, што вялікая колькасьць цыганоў пачала займацца антызаконнай дзейнасьцю, бо іх традыцыйныя ўмельствы (гандаль коньмі, медніцтва ды іншыя) сталі непатрэбныя ў даволі разьвітай эканоміцы рэгіёну. У выніку яны церпяць ад беспрацоўя непараўнальна больш, чым нецыганскае насельніцтва. Гэтаксама папракаць цыганоў за адносна нізкі ўзровень адукаванасьці — значыць ігнараваць той факт, што яны пазбаўлены магчымасьці вучыцца на роднай мове і падвяргаюцца суровай дыскрымінацыі пры паступленьні ў навучальныя ўстановы.

## Погляд у гісторыю

Згодна зь меркаваньнем большасьці гісторыкаў, цыганы пакінулі сваю прарадзіму ў паўночна-заходняй Індыі (цяпер тэрыторыя Пакістана) каля X ст. нашай эры. Усходняй Эўропы яны дасягнулі ў XIII-XV стст., а заходняй — у XIV-XVI стст. На Балканах, акупаваных Атаманскай імпэрыяй, цыганы трапілі ў рабства, зь якога былі вызвалены толькі ў мінулым стагодзьдзі. У Цэнтральна-Усходняй Эўропе ім жылося лепей, бо іхныя рамёствы ўдала стасаваліся зь мясцовай эканомікай. Інтэграцыя цыганоў у ня надта разьвітыя грамадзтвы імпэрыі Габсбургаў адбывалася значна лягчэй, чым яна праходзіць цяпер у высокаразьвітых краінах Заходняй Эўропы. Хаця цыганы-вандроўнікі былі людзьмі мірнымі, яны заўсёды трымаліся разам і ніколі лёгка ня зьмешваліся з астатнім жыхарствам. З гэтага вынікала, што іх успрымалі ў лепшым выпадку як дзіўных чужынцаў; у горшым жа выпадку іх ненавідзелі ды перасьледавалі.

Славянскае найменьне гэтага ўнікальнага народа ("цыганы"), якое прыжылося таксама і ў неславянскіх мовах, напрыклад, у нямецкай (Zigeuner) і вугорскай (cigany), паходзіць ад бізантыйскага слова atsinganoi ("недатыкальныя"): гэта значыць, тыя, хто не паддаецца вонкаваму ўплыву. Ангельская назва цыганоў «Gypsy» — вынік няправільнага ўяўленьня сярэднявечных людзей пра тое, што прарадзімай гэтага народа быў Эгіпет. Самі цыганы аддаюць перавагу тэрміну Roma, што на іх мове значыць «чалавек».

Нават сёньня цыганы дзеляцца на дзесяткі асобных пляменаў, якія адрозьніваюцца паводле сваіх заняткаў (у вадной Румыніі цяпер існуе прынамсі сорак такіх груповак). Няма і такога паняцьця, як адзіная цыганская мова. Шматлікія дыялекты нагэтулькі аддаліліся адзін ад аднаго, што францускія цыганы, напрыклад, толькі зь вялізнай цяжкасьцю могуць паразумецца са сваімі братамі з Расіі або Славакіі. Шмат хто з усходнеэўрапейскіх цыганоў ужо ўвогуле няздольны размаўляць хоць на якім-небудзь варыянце сваёй мовы. У Румыніі, напрыклад, блізу 60% цыганоў карыстаецца роднай моваю у сям'і, але большасьць ведае таксама румынскую або вугорскую мову (гэта залежыць ад мясцовасьці). А ў Вугоршчыне 80% цыганоў не валодаюць ніводным дыялектам цыганскае мовы.

## Колькі іх?

Памеры ўсходнеэўрапейскай цыганскай грамады дакладна вызначыць даволі цяжка. Прычынаў такой неакрэсьленасьці некалькі. Па-першае, перапісы насельніцтва краін былога сацыялістычнага лягеру надта ненадзейныя, бо яны ці моцна заніжалі колькасьць цыганскага жыхарства, ці навогул не рэгістравалі іх як асобную этнічную катэгорыю. Па-другое, цыганы часта атаясамлівалі сябе з той нацыянальнасьцю, якая дамінавала ў дадзенай мясцовасьці. Рабілі яны гэта або таму, што сапраўды былі асыміляваныя, або таму, што баяліся перасьледу. Па-трэцяе, часта немагчыма было падлічыць дакладна колькасьць цыганоў з тае прычыны, што яны ня мелі сталых адрасоў.

Паводле зьвестак нямецкага часопіса «Der Spiegel», якія здаюцца нам вартымі даверу, цыганскае насельніцтва Албаніі складае 62 тысячы чалавек, Баўгарыі — 800 тысяч, Чэха-Славаччыны — таксама 800 тысяч, Вугоршчыны — 600 тысяч, Польшчы — 50 тысяч, Югаславіі (у старых межах) — 800 тысяч і Румыніі — 2 мільёны.

Згодна з надзейнымі ацэнкамі, сёньня ва Усходняй Эўропе налічваецца блізу 5 мільёнаў цыганоў. Агульная колькасьць цыганоў сьвету ацэньваецца ў межах 8-10 мільёнаў, зь якіх каля 7 мільёнаў прыпадае на Эўропу. З гэтых лічбаў вынікае, што ва Усходняй Эўропе жыве ад паловы да дзьвюх трацін сусьветнай цыганскай грамады.

## Цыганы за камуністычным часам

Кульмінацыяй 600-гадовага перасьледу вандроўнага народа ў Эўропе стала зьнішчэньне 600 000 пераважна ўсходнеэўрапейскіх цыганоў у нацысцкіх лягерах сьмерці пад час Другой сусьветнай вайны.

Хоць сорак гадоў камуністычнай улады, што запанавала ў краінах Усходняй Эўропы пасьля вайны, прынесьлі пэўную палёгку цыганам, аднак карэнным чынам стаўленьне да гэтага народа не зьмянілася. Іх дзеці былі пазбаўлены права атрымліваць адукацыю на цыганскай мове, што вельмі кепска адбівалася на іхным інтэлекце. Улады меркавалі гэтак. Большасьць цыганоў — людзі дзьвюхмоўныя; яны ўмеюць размаўляць і на сваёй мове і на афіцыйнай мове краіны. Значыць, навучаньне іх дзяцей на цыганскай мове можа іх яшчэ больш ізаляваць ад астатняга грамадзтва і стварыць яшчэ большыя перашкоды для іх працаўладкаваньня. Палітыкі апраўдвалі такую сваю пазыцыю тым, што цыганы — гэта не «нацыянальнасьць», а проста «этнічная група», якая ня мае ні бацькаўшчыны, ні агульнае мовы, ні гісторыі. Праблема неакрэсьленасьці адміністрацыйнага статусу цыганоў усё яшчэ чакае свайго разьвязаньня.

Напрыканцы 80-х гадоў у балканскіх краінах (апрача Югаславіі часоў Ёсіпа Броз Ціта) «цыганская праблема» або навогул ігнаравалася, або «вырашалася» сілавымі мэтадамі. Напрыклад, у Балгарыі пад час крыжовага пахода за інтэграцыю, улады гвалтоўна перасялялі цыганоў на самыя горшыя новабудоўлі. Таксама, як і этнічных туркаў, цыганоў прымушалі балгарызаваць свае прозьвішчы і выракацца сваіх традыцый. У цітаўскай Югаславіі, аднак, цыганы жылі лепей, бо яны былі канстытуцыйна прызнанай нацыянальнасьцю і мелі ўсе адпаведныя правы. Але па маршалавай сьмерці выбух этнічнай нецярпімасьці закрануў і іх. Што да албанскага рэжыму Энвэра Ходжы, дык ён не прызнаваў цыганоў як этнічную супольнасць і абсалютна не зважаў на іх праблемы. Албанія была занятая будаўніцтвам новага сацыялістычнага грамадзтва і ня мела часу цацкацца зь нейкімі цыганамі.

У 50-я гады, змагаючыся з цыганамі-вандроўнікамі, румынскія камуністы канфіскоўвалі іх фургончыкі і коней, каб зьменшыць іх мабільнасьць. За часы Чаўшэску на іх проста не зьвярталі ўвагі, бо бухарэсцкі ўрад урачыста абвясьціў, што ў Румыніі нацыянальных праблем больш не існуе. Тым ня менш, шмат хто з цыганоў быў задаволены сваім жыцьцём у тыя гады. Многія румыны лічылі, што іх лідар вельмі прыхільна ставіцца да цыганоў, калі-нікалі ён нават выпускаў іх з турмы.

Вугорскія цыганы зазналі значна большую асыміляцыю, чым іх балканскія суродзічы. Палітыка Будапэшта вагалася ад гвалтоўнай асыміляцыі да апякунскай талерантнасьці. Вугорскае кіраўніцтва, як, зрэшты, і чэхаславацкае, будавала сотні кватэр для цыганоў, каб заахвоціць іх да аселага жыцьця. Фактычна яно спрабавала «нацыяналізаваць» цыганскую грамаду.

Для варшаўскага камуністычнага рэжыму польскія цыганы ніколі не былі сур'ёзнай праблемай перадусім з прычыны іх невялікай колькасьці. Хаця афіцыйна качавы лад жыцьця быў забаронены, практычна выкараніць гэтую зьяву не ўдалося. Мясцовыя ўлады прыйшлі да высновы, што ўсе іхныя спробы зьмяніць цыганскія традыцыі, відаць, акажуцца непрадуктыўнымі.

Чэхаславацкія ўлады дамагаліся стэрылізацыі тысяч цыганскіх жанчын, прапануючы кожнай даволі вялікую «кампэнсацыю» ў памеры гадавога заробку (да 25000 кронаў). Такая палітыка была збольшага спынена ў 1990 годзе, хоць асобныя выпадкі былі зарэгістраваныя аж увесну 1991 года.

Такія спробы «прыручыць» цыганскае насельніцтва мелі і пэўныя станоўчыя вынікі. Напрыклад, ува ўсім усходнеэўрапейскім рэгіёне павысіўся ўзровень пісьменнасьці і адукаванасьці цыганскай супольнасьці, пачало фармавацца ядро цыганскай інтэлігенцыі. У некаторых краінах палепшыліся іх жыльлёвыя варункі. Але руйнаваньне традыцыйных асяродкаў выклікала супор і абурэньне цыганскага жыхарства.

## Цыганы ў посткамуністычным грамадзтве

Пасьля скону камунізму новыя ўрады Усходняе Эўропы атрымалі ў спадчыну плойму сацыяльна-эканамічных праблем, якія дужа неспрыяльна адбіліся на становішчы нацыянальных меншасьцяў і найперш цыганоў.

Становішча цыганскага насельніцтва ніколі не было сур'ёзнай сацыяпалітычнай праблемай для Польшчы. Але часам у друку можна натрапіць на паведамленьні пра гвалтоўныя дзеяньні ў адносінах да польскіх цыганоў. Хоць прычынай такіх здарэньняў можа быць зайздрасьць палякаў да «правакацыйнага багацьця» некаторых цыганскіх сем'яў, аднак існуюць неаспрэчныя доказы таго, што гэткія гвалтоўныя дзеяньні былі выкліканы менавіта расысцкімі матывамі. Варшаўскі ўрад рэзка асудзіў напады на цыганоў, выказаўшы адначасова меркаваньне, што гэта толькі выпадковыя інцыдэнты, якія не патрабуюць дадатковага ўмяшаньня ўладаў.

Урад Чэха-Славаччыны ўжо неаднойчы выказваў сваё абурэньне з нагоды нападаў на цыганоў, але так і ня здолеў пакласьці край такім выпадкам. Удзел чэха-славацкага прэзыдэнта Вацлава Гавэла ў Цыганскім Кангрэсе, які адбыўся ў Брно ў ліпені 1990 года, быў з энтузыязмам сустрэты цыганскай грамадзкасьцю як сьведчаньне яго прыхільнасьці. Але нягледзячы на свае добрыя намеры Гавэлу не ўдалося спыніць праяваў расызму, асабліва з боку «брытагаловых».

Вугорскі прэм'ер-міністр Ёжэф Антал лічыцца экспэртам па праблемах меншасьцяў. Але пад час перадвыбарчай кампаніі 1990 года яго правацэнтрысцкая партыя, Вугорскі Дэмакратычны Форум, спрабавала распаліць варожасьць паміж некаторымі нацменшасьцямі. Мясцовыя выбары ўвосень 1990 года таксама былі заплямлены пагрозамі і гвалтам супраць цыганоў. Ёсьць, аднак, і дадатныя зрухі. Кааліцыйны ўрад прыняў рашэньне фінансаваць цыганскія палітычныя і культурныя арганізацыі, а таксама іх перадвыбарчыя кампаніі.

У вапошнія два гады становішча румынскіх цыганоў пагаршалася далей нягледзячы на пэўны прагрэс у дасягненьні большай палітычнай і культурнай свабоды. Для большасьці румынаў цыганы — гэта заправілы «чорнага рынку». Яны неаднойчы ставаліся ахвярамі нападаў з боку шахцёраў, якіх прэзыдэнт Іон Іліеску запрашаў у чэрвені 1990 года для ўціхамірваньня студэнцкіх хваляваньняў у Бухарэсьце. З таго часу гвалт супраць цыганоў стаў звычайнай рэччу, і ні ўрад, ні паліцыя не спрабуюць хоць неяк зьмякчыць напружанасьць. Нядаўна даволі папулярны штотыднёвік «Romania Mare» ў рэдакцыйным артыкуле абвясьціў, што «неўзабаве пэўным людзям прыдзецца хутка пакінуць краіну, і, вядома ж, гэта будуць не румыны». Ніколаэ Георгэ, сацыёляг і цыганскі актывіст, сказаў у інтэрвію часопісу «Der Spiegel»: «У Румыніі засталося ўжо зусім мала габрэяў. Значыць, роля ахвярнага казла будзе аддадзена нам».

Балгарскі ўрад таксама пакуль ня ў стане спыніць пэрыядычныя выбухі расызму ў дачыненьні да цыганоў. Балгарскія дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі паказваюць цыганоў у вельмі невыгодным сьвятле, заахвочваючы такім чынам дыскрымінацыю супраць іх. Пад час аднаго інцыдэнта, які адбыўся ў вёсцы Подэм, балгары спалілі 16 дамоў у «цыганскім квартале» пасьля нейкага канфлікта зь мясцовымі цыганамі.

Грамадзянская вайна ў былой Югаславіі стала цяжкім выпрабаваньнем для цыганскай супольнасьці. Цыганы адчуваюць ня толькі расавы і сацыяльны ўціск, але й спробы маніпуляваньня імі з боку розных груповак, уцягнутых у канфлікт. Вось, напрыклад, у 1990 г. ў Славеніі пад час выбараў супраць цыганоў ужывалі сілу, каб не дапусьціць іх да ўдзелу ў галасаваньні. Вядомы ў сьвеце цыганскі тэатр «Phralipe» быў змушаны пакінуць свой будынак у Скоп'е (сталіца Рэспублікі Македоніі) і пераехаць у нямецкі горад Мюльхайм. З былых югаслаўскіх рэспублік толькі Босьнія і Герцэгавіна надала цыганам статус нацменшасьці.

(Заканчэньне на стар. 13)

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЬЦЬ АФАРМЛЕНЬНЯ АБАНЭМЭНТА**

На абанэмэнце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленьні падпіскі (пераадрасоўкі) бяз касавай машыны на абанэмэнце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпэля аддзяленьня сувязі. У гэтым выпадку абанэмэнт выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармленьня падпіскі на газэту або часопіс, а таксама для пераадрасаваньня выданьня блянк абанэмэнта з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам атрамантам, разборліва, без скарачэньняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталёгах.

Запаўненьне месячных клетак пры пераадрасаваньні выданьня, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.







Напрыканцы 1992 года ўпершыню на Беларусі пачынаецца выпуск паштовак, прысьвечаных гісторыі беларускага войска, ягонаму строю і ўзбраеньню.

Першы выпуск мае 12 каляровых выяваў-рэканструкцыяў воінаў з часоў Полацкага княства да падзелаў Рэчы Паспалітай.
Усе выявы суправаджаюцца падрабязным гістарычным камэнтарам, які распавядае аб зьяўленьні і разьвіцьці на Беларусі таго ці іншага роду войскаў альбо тыпу ўзбраеньня.

У далейшым у гэтай сэрыі прапануюцца тэматычныя выпускі, прысьвечаныя асобным пэрыядам у разьвіцьці беларускай вайсковай справы, а таксама найбольш значным вайсковым кампаніям, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі з 12 па 20 стагодзьдзе. Усе рэканструкцыі маюць навуковы характар і разьлічаны на людзей, якія цікавяцца гісторыяй беларускай вайсковай справы.

Аўтар — **М.Грыгор'еў**
Навук. кансультант — канд. гіст. навук **Г.Сагановіч**
Мастак — **І.Кендзянкоў**
Тэл. для даведак **33-07-19**

8 верасьня 1514 году
найвышэйшы гетман
Вялікага княства
Літоўскага
Кастусь Астрожскі,
маючы каля 30 тысячаў
войска,
дазваньня разьбіў
пад Воршай
80-тысячную
маскоўскую арду.



**Віншуем спадарства**

**з Днём беларускай**

**вайсковай славы!**

Dainova Co.,Ltd.

